**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.30, 18.09, 11.38;
Віцебск — 6.21, 17.58, 11.35;
Магілёў — 6.20, 17.58, 11.30;
Гомель—6.14, 17.58, 11.44;
Гродна—6.43, 18.26, 11.43;
Брэст—6.45, 18.25, 11.40.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 12 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ:**
Івана, Касьяна;
Бажэны, Хрысціны.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

13 САКАВІКА 1992 г. пятніца, № 53 (21831)

● цана 50 кап.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## АБ ПАРАДКУ ДНЯ ДЗЕВЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Уключыць у парадак дня дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Даклад Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Кебіча В. Ф. аб выкананні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб падаткаабкладанні.

2. Аб праходжанні вайсковай службы грамадзянамі Рэспублікі Беларусь за яе межамі.

3. Кадравыя пытанні.

4. Аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго органаў.

5. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавай біржы» (другое чытанне).

6. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб таварных біржах» (другое чытанне).

7. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб цэнаўтварэнні».

8. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь (другое чытанне).

9. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці».

10. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб фарміраванні валютных фондаў у 1992 годзе».

11. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб часовым парадку валютнага рэгулявання і правядзення валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

12. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб акцыянерных таварыствах, таварыствах з абмежаванай адказнасцю і таварыствах з дадатковай адказнасцю».

13. Аб праекце канцэпцыі мытнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь і праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах мытнай службы Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

14. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь».

15. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб імянных прыватызацыйных рахунках (чэкавых кніжках) і ўкладах у Рэспубліцы Беларусь».

16. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

17. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве ўласнасці на зямлю».

18. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» (другое чытанне).

19. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыцы».

20. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

21. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб прафесіянальных саюзах» (другое чытанне).

22. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах» (другое чытанне).

23. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

24. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні грамадзян у Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

25. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны».

26. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай службе».

27. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодным развіцці нацыянальных груп у Рэспубліцы Беларусь».

28. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей».

29. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя грамадзян Рэспублікі Беларусь».

30. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне Рэспублікі Беларусь».

31. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў».

32. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб усеагульным вайсковым абавязку і вайсковай службе».

33. Аб ратыфікацыі дагавора «Аб звычайных узброеных сілах у Еўропе» і міжнародных дагавораў (пагадненняў), заключаных ад імя Рэспублікі Беларусь.

34. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь».

35. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь».

36. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь».

37. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага прыроднага асяроддзя Рэспублікі Беларусь».

38. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб узмацненні адказнасці прадпрыемстваў, арганізацый, службовых асоб і грамадзян за экалагічныя правапарушэнні».

39. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях».

40. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

41. Аб праекце канцэпцыі судова-прававой рэформы.

42. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці».

43. Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы (арыенціровачны пералік праектаў прыкладаецца).

44. Зацвярджэнне каштарыса расходаў, звязаных з дзейнасцю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго органаў.

45. Аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1992 год.

46. Аб надзяленні Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь дадатковымі паўнамоцтвамі.

47. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю».

48. Аб стварэнні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню правамернасці пераўтварэння Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнага страхавання і яго органаў на месцах у Беларускую дзяржаўную страхавую камерцыйную арганізацыю і звязанай з гэтым дзейнасці некаторых службовых асоб.

49. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку адклікання народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

50. Аб стварэнні Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і права.

51. Справаздача Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб выкананні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці сяла і аграпрамысловага комплексу».

52. Аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны ў раёне горада Брэста.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

**11 сакавіка 1992 г. г. Мінск.**

### ДАДАТАК ДА ПУНКТА 43
### Арыенціровачны пералік праектаў заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь

1. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Рэспублікі Беларусь.

2 Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» і праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

3. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ў Законы Рэспублікі Беларусь «Аб арэндзе», «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкрутстве», «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» і праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб умацаванні выканаўчай улады ў Рэспубліцы Беларусь».

4. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ДА ВІЗІТУ Ў РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ

**намесніка федэральнага канцлера, міністра замежных спраў ФРГ Ганса-Дзітрыха Геншэра**

**Сёння з афіцыяльным візітам у Рэспубліку Беларусь упершыню прыбывае намеснік федэральнага канцлера, міністр замежных спраў ФРГ Г.-Д. Геншэр.**

Г.-Д. Геншэр нарадзіўся 21 сакавіка 1927 года ў Райдэбургу (зямля Саксонія-Ангальт). У 1946—1949 гг. вывучаў права і эканоміку ва універсітэтах Гале і Лейпцыга. У той перыяд быў членам Ліберальна-дэмакратычнай партыі Германіі, выбіраўся ў праўленне партыі ў зямлі Саксонія-Ангальт. Сваю юрыдычную адукацыю завяршыў у 1954 г. у Гамбургу пасля перасялення ў жніўні 1952 г. з ГДР у ФРГ. Займаўся адвакацкай практыкай. Быў адным з кіраўнікоў маладзёжнай арганізацыі Свабоднай дэмакратычнай партыі. У 1959 г. стаў адказным сакратаром фракцыі СвДП у бундэстагу ФРГ. З 1965 г. Г.-Д. Геншэр — дэпутат бундэстага. У 1968 г. быў выбраны намеснікам старшыні СвДП, а з 1974 г. па 1985 г. з'яўляўся яе старшынёй. У 1969—1974 гг. Г.-Д. Геншэр — міністр унутраных спраў, у 1974—1982 гг.— намеснік федэральнага канцлера і міністр замежных спраў ва ўрадзе СДПГ-СвДП. З кастрычніка 1982 г.— на тых жа пасадах ва ўрадзе ХДС/ХСС—СвДП. Поспехі свабодных дэмакратаў на агульнагерманскіх парламенцкіх выбарах у ФРГ адносяць у вялікай ступені на асабістую папулярнасць Г.-Д. Геншэра, падтрымку з боку выбаршчыкаў яго знешнепалітычных установак. У аснове палітычных поглядаў Г.-Д. Геншэра ляжыць лінія на ўмацаванне цеснага саюза ФРГ з заходнееўрапейскімі партнёрамі і ЗША, паглыбленне і расшырэнне працэсаў, якія адбываюцца ў рамках СБСЕ, а таксама імкненне да развіцця шырокага палітычнага дыялога паміж Усходам і Захадам.

# УРАД ЗАЯЎЛЯЕ: ЗАБЕСПЯЧЭННЕ СУВЕРЭНІТЭТУ РЭСПУБЛІКІ—У ЦЭНТРЫ ЯГО ЎВАГІ

***Выступленне Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. КЕБІЧА на сесіі Вярхоўнага Савета***

Паважаны Прэзідыум!

Паважаныя народныя дэпутаты!

Прайшло каля двух месяцаў з таго часу, калі па прапанове ўрада Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў законы аб новай сістэме падаткаў.

За гэты адносна невялікі адрэзак часу ўраду, яго фінансавым органам запатрабавалася распрацаваць і давесці да выканаўцаў сэнс і змест новай падатковай сістэмы, дапамагчы спецыялістам асвоіць яе, гэта значыць стварыць умовы, неабходныя для таго, каб новая сістэма працавала.

Зрабіць усё гэта было вельмі важна, паколькі пачаўшая дзейнічаць у нас у гэтым годзе падатковая сістэма па сутнасці ўключае ў сябе такія рычагі дзяржаўнага ўздзеяння на эканамічны механізм, якія адпавядаюць умовам пераходу да рынку і станаўлення незалежнасці рэспублікі.

Пры гэтым нельга было не лічыцца і з тым, што аналагічныя падатковыя сістэмы дзейнічаюць у іншых дзяржавах, з якімі нас звязваюць цесныя эканамічныя адносіны.

Неабходнасць новай падатковай сістэмы, натуральна, гэтым не вычэрпваецца. Праблема гэта намнога шырэйшая і, відаць, не лішнім будзе вярнуцца да таго, каб яшчэ раз узважыць, навошта спатрэбілася нам мяняць усю сістэму падаткаў і практычна нанава ствараць усё яе прававое забеспячэнне.

Справа ў тым, што старое заканадаўства аб падатках было заклікана абслугоўваць функцыяніраванне эканомікі, пабудаванай на прынцыпах жорсткай цэнтралізацыі і планава-размеркавальных адносін. Яно не магло адаптавацца да тых новых працэсаў, якія цяпер адбываюцца.

На працягу многіх гадоў асновай старой падатковай сістэмы быў падатак з абароту. Ён не насіў скразнога, універсальнага характару, праследаваў, у асноўным, фіскальныя мэты, ахопліваючы толькі спажывецкія тавары, і ва ўмовах адзінага жорсткага бюджэту выкарыстоўваўся цэнтрам як інструмент пераразмеркавання даходаў.

Інакш кажучы, тое, што стваралася больш прадукцыйнай працай у адной рэспубліцы, перадавалася другой, дзе эфектыўнасць гаспадарання была ніжэйшай. У нашай рэспубліцы такім чынам забіралася прыкладна трэць даходаў ад гэтага падатку. Як гэтыя сродкі выкарыстоўваліся далей, мы фактычна не ведалі.

Да таго ж старая сістэма не была напрамую звязана з тым, наколькі эфектыўна працуе прадпрыемства. Усё, што перавышала сярэднюю норму рэнтабельнасці, проста падлягала забіранню ў даход дзяржавы.

Наступная немалаважная акалічнасць заключаецца ў тым, што старая падатковая сістэма была цалкам звязана са строга фіксаванымі дзяржаўнымі цэнамі, якія дзейнічалі ў нас. Ва ўмовах рыначнай эканомікі, дзе цэны заўсёды рухомыя, яна страчвае свой першапачатковы чыста размеркавальны сэнс. Пры свабодных цэнах, калі колькасць цэн на адну і тую ж наменклатуру вырабаў павялічваецца ў дзесяткі, а то і сотні разоў, забяспечыць паступленне падатку з абароту стала б нават тэхнічна цяжка вырашальнай задачай.

І, нарэшце, падатковая сістэма і заканадаўства па падатках зусім не стваралі ўмоў для прыцягнення ў эканоміку рэспублікі замежнага капіталу. Нават сама структура гэтага заканадаўства рэзка, прычым у горшы бок, адрознівалася ад выкарыстоўваемага ў развітых краінах.

І наогул заканадаўства, што дзейнічала раней, насіла вельмі агульны характар і таму часта прыходзілася абапірацца не столькі на сам закон, як на розныя інструкцыі і растлумачэнні, якія на месцах нярэдка тлумачыліся вельмі адвольна.

Скажыце, калі ласка, ці можна будаваць новыя адносіны ў эканоміцы, выкарыстоўваючы зусім непрыгоднае для гэтага падатковае заканадаўства? Вядома ж, не. Нам была крайне неабходна зусім іншая, мабільная падатковая сістэма, якая магла б хутка прыстасоўвацца да рынку, і—галоўнае — адпавядаць інтарэсам рэспублікі.

Якім прынцыпам, на наш погляд, яна павінна адпавядаць? Перш за ўсё стымуляваць рыначныя адносіны. Гэта значыць актыўна зацікаўліваць вытворцаў у развіцці новых відаў дзейнасці, звязанай з вытворчасцю патрэбнай прадукцыі і аказаннем паслуг.

Падаткаабкладанне — вельмі складаная эканамічная сістэма. Яна закранае прадпрыемствы любых форм уласнасці, літаральна кожнага чалавека. З гэтага вынікае галоўнае патрабаванне: падатковая сістэма павінна мець трывалую заканадаўчую аснову. Інакш кажучы, як сама сістэма, так і яе складаемыя ў выглядзе асобных падаткаў павінны вызначацца парламентам і тым самым, што надзвычайна важна, гарантаваць правы падаткаплацельшчыкаў і ахоўваць інтарэсы бюджэту.

Гэтым не вычэрпваюцца патрабаванні, якім павінна адпавядаць падатковая сістэма. Яна павінна быць цэласнай, дзе ўсе віды падаткаў маюць унутраную ўзаемасувязь. Улічваць тэрытарыяльныя інтарэсы. Валодаць прастатой успрымання. Абыходзіцца мінімумам інструкцый і падзаконных актаў.

Вельмі важна, каб у яе была закладзена ідэя справядлівасці падаткаабкладання, дзе інтарэсы падаткаплацельшчыкаў і грамадства ў цэлым былі б збалансаваны. Яна павінна ствараць неабходныя прадпасылкі для рэалізацыі агульнадзяржаўных, у першую чаргу сацыяльных, праграм, забяспечваць абарону бедных, дзяцей, інвалідаў, пенсіянераў, студэнтаў, мнагадзетных сем'яў.

Нарэшце, заканадаўства аб падатках абавязана вырашаць і такую важную задачу, як забеспячэнне дакладнай арганізацыі службы кантролю за паступленнем падаткаў і непазбежнасці пакарання за ўхіленне ад іх уплаты. Тым больш, што ў сувязі з паяўленнем новых падаткаў, бурным ростам кааператываў, дробных, сумесных і цэлага рада іншых прадпрыемстваў у многа разоў павялічылася колькасць падаткаплацельшчыкаў, а з імі і колькасць выпадкаў злоснага ўхілення ад уплаты падаткаў.

Таму асаблівая адказнасць і цяжар работы па выкананню законаў аб падатках кладзецца на плечы Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі рэспублікі і яе службы на месцах. Пры праверках інспекцыямі выяўляюцца факты ўтойвання падаткаў на дзесяткі мільёнаў рублёў. Нярэдка гэта адбываецца пры супраціўленні службовых асоб падатковым інспектарам.

У такіх умовах аб'ектыўна ўзнікла неабходнасць умацавання падатковай інспекцыі, стварэння ў яе структуры службы дазнання (інакш кажучы, падатковай міліцыі), якая змагла б аператыўна разглядаць справы з утойваннем падаткаабкладаемых даходаў, што падпадаюць пад дзеянне Крымінальнага кодэкса.

Паколькі новае падатковае заканадаўства было ўспрынята ў розных слаях грамадства неадназначна, урад з мэтай экспертызы сістэмы падаткаў стварыў дзве групы вучоных-эканамістаў. Адну з іх узначаліў доктар эканамічных навук Нікіценка Міхаіл Віктаравіч, другую — доктар эканамічных навук Куняўскі Макс Самуілавіч. Яны працавалі незалежна, але абедзве прыйшлі да вываду, што тая падатковая сістэма, якая ў нас сёння дзейнічае, якіх-небудзь прынцыповых недахопаў не мае.

Да гэтага ж вываду прыйшлі эксперты Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка рэканструкцыі і развіцця.

На працягу некалькіх тыдняў яны вывучалі стан эканомікі рэспублікі і далі падрабязныя рэкамендацыі ў адносінах да таго, як нам неабходна дзейнічаць. Сутнасць гэтых рэкамендацый заключаецца ў тым, што трэба праводзіць яшчэ больш жорсткую, чым цяпер, фінансава-крэдытную палітыку, не дапускаючы зніжэння падатковага напружання і максімальна абмяжоўваючы расходы бюджэту.

Усе рэкамендацыі — і вучоных, і зарубежных экспертаў — цяпер абагульняюцца і карыснае будзе выкарыстана. Але трэба лічыцца і з тым, што ў поўнай меры разважаць аб вартасцях і недахопах новай падатковай сістэмы можна будзе толькі пасля заканчэння хаця б двух-трох кварталаў, пасля таго, як яна поўнасцю праявіць сябе ў практыцы гаспадарання.

Пакуль жа для таго, каб зрабіць дастаткова поўныя аб'ектыўныя ацэнкі, часу прайшло занадта мала. Тым больш, што прайшоўшы з пачатку года перыяд для нашай эканомікі выдаўся вельмі цяжкім па прычынах, якія напрамую не звязаны з дзеяннем тых або іншых падаткаў.

Як вы ведаеце, у другой палавіне мінулага года ў народнай гаспадарцы рэспублікі пачалі праяўляцца некаторыя прыметы стабілізацыі. І трэба прама сказаць, што адбылося гэта не само па сабе, а дзякуючы тым мерам, якія мы з вамі прынялі .

Але ў студзені бягучага года абстаноўка рэзка змянілася. Вычарпаўшы наяўныя запасы ў частцы матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і дагаворанасці мінулага года аб пастаўках, многія нашы прадпрыемствы сутыкнуліся з тым, што іх сумежнікі ў іншых рэгіёнах пайшлі на рэзкае згортванне сувязей. Яны аказаліся таксама перад наяўнасцю скарачэння заказаў на сваю прадукцыю.

Апошняе асабліва закранула канверсуемыя прадпрыемствы, дзе большую долю ў аб'ёме вытворчасці займаў выраб ваеннай тэхнікі. Цяжкасць гэтых працэсаў узмацнілася пераходам Расіі на свабодныя аптовыя, а затым і рознічныя цэны, што дало ў рукі многіх вытворцаў прадукцыі, асабліва манапалістаў, вельмі моцную зброю цэнавага націску на спажыўцоў і яшчэ больш пагоршыла становішча як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Усё гэта пераплялося і паслужыла штуршком да зніжэння вытворчасці.

За два месяцы выпуск прамысловай прадукцыі скараціўся на 12,5 працэнта, а на прадпрыемствах абароннага профілю — на 30 працэнтаў. У калгасах і саўгасах вытворчасць мяса знізілася на 5, а малака — больш чым на 20 працэнтаў. Зменшылася вытворчасць харчовых і прамысловых тавараў. У выніку атрыманы нацыянальны даход знізіўся на 15 працэнтаў.

Па гэтых прычынах узніклі вялікія бюджэтныя цяжкасці. Яны ўзмацніліся яшчэ і тым, што мы ў інтарэсах насельніцтва палічылі заўчасным ісці на такое шырокае размарожванне рознічных цэн, як гэта зрабілі ў іншых рэспубліках былога Саюза. У студзені гэта абышлося бюджэту ў 3,5 мільярда рублёў, а ў лютым— больш чым у мільярд рублёў.

Такая ў агульных рысах эканамічная сітуацыя. Само сабой паўстае пытанне: як урад бачыць далейшае развіццё падзей?

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ЯК ЗАХАВАЦЬ БУКЕТ?

**Зразаць кветкі трэба раніцай, неўзабаве пасля ўсходу сонца, калі ў раслінах асабліва многа вільгаці.**

Вялікае значэнне мае ступень развіцця кветкі ў момант, калі яе зразаюць. Для розных сартоў ступень гэтая розная: **ружы** лепш зразаць у добра развітых, але яшчэ не зусім раскрытых бутонах; **гваздзікі** — у паўраспушчаных бутонах; **лілеі** — у стадыі афарбаваных бутонаў; **гладыёлусы** — калі распусціцца адна-дзве ніжнія кветачкі; **макі** — з лопнуўшымі бутонамі; **пахучы гарошак** — калі распусціцца першая кветачка; **вяргіні, астры, мацыёлу, наготкі** — калі распусціцца большая частка пялёсткаў.

Кветкі зразаюць не ножнамі, а вострым нажом, наўскос, і адразу апускаюць зрэзаныя сцябліны ў ваду.

**Хрызантэмы і астры** лепш ламаць, а не зразаць. Канцы галінак пры змене вады не падразаць, а ачышчаць, цвёрдай шчоткай ад гнілых частак.

**Перад тым як апусціць сцябліну ў ваду,** іх трэба падрэзаць вострым нажом, а галінкі бэзу, язміну, хрызантэм і г. д. расшчапіць унізе ў некалькіх месцах і ў шчыліны ўставіць кавалкі запалак, каб краі іх не сыходзіліся. Гэта ўзмоцніць усмоктванне вільгаці.

**Перш чым паставіць кветкі ў вазу,** усе лісты з ніжняй часткі сцябліны, якая будзе знаходзіцца пад вадой, трэба абрэзаць.

**На ружах, як толькі іх унеслі ў пакой,** неабходна ачысціць ад калючак тую частку сцябліны, якая будзе пад вадой, наўскос зрэзаць сцябліну і расшчапіць яе. На ноч ружы трэба выцягнуць з вады, добра прамыць канцы сцяблін, шчыльна загарнуць у мокрую газету і пакласці ў халоднае месца ці, разам з паперай, у таз або ванну з вадой.

**Зрэзаныя кветкі нельга ставіць у вельмі халодную ваду.** Аднак і ў гарачую ваду іх ставіць не трэба. Вада павінна быць пакаёвай тэмпературы.



СТАДЫЁН

## СПАРТКОМПЛЕКС У КВАТЭРЫ

**Невялікі спарткомплекс (2×1,5) займае плошчу 3 квадратныя метры. Яго можна абсталяваць у пакоі любой формы: як прамавугольнай, так і квадратнай. Захаваўшы прыкметы вялікага комплексу, ён мае некаторыя адрозненні. Т-падобны малюнак столевых гарызантальных бэлек заменены на Г-падобны. Памер бэлек 2 і 1,5 м.**

Гэта канструкцыя падпіраецца знізу дзвюма стойкамі перакладзіны з вінтамі М 20, якія ўстанаўліваюцца пад доўгай бэлькай: адна— у цэнтры яе вуглавога злучэння з кароткай бэлькай, другая — на адлегласці 750 мм ад першай. Абедзве гарызантальныя бэлькі на свабодных канцах маюць металічныя пласціны для мацавання комплексу да сцен. Трэцяя пласцінка накладваецца ў месцы іх злучэння.

Такім чынам, уся Г-падобная канструкцыя комплексу прыціснута да столі стойкамі перакладзіны, а яе канцы мацуюцца да сцен. Устойлівасць сістэме надае і нахільная трохвугольная лесвіца. Яна працягнута з ніжняга вугла пакоя да цэнтра злучэння гарызантальных бэлек і з'яўляецца дадатковым мацаваннем комплексу.



Пад доўгай бэлькай, акрамя перакладзіны з вярчальнай лонжай, размешчаны і кольцы, якія можна замяніць на трапецыю. Пад кароткай бэлькай, у цэнтры, побач з бакавінай лесвіцы падвешаны канат.

Далей ад сцяны, на вышыні 1,5 м ад столі, размешчаны арэлі.

Ліяна з вакуумнай цыліндрычнай гумы працягнута прыблізна ад цэнтра адной гарызантальнай бэлькі да цэнтра другой. Пацясніўшы яе да канцоў бэлек ці да цэнтра, можна падвесіць і другую.

Пад арэлямі ўздоўж сцяны можна паставіць ложак ці пакаёвую катальную горку.

Такім чынам размяшчаюцца ўсе асноўныя снарады спарткомплексу.



## ГЭТЫЯ МОДНЫЯ ЗЕРНЕВЫЯ РАСТКІ

**У апошнія 20 гадоў зерневыя расткі сталі вельмі моднымі— у ЗША і Вялікабрытаніі, у некаторых іншых краінах. У Кітаі ж яны папулярныя прыблізна з 3.000-га года да нашай эры.**

**Што прыгоднае для прарошчвання?** Часцей за ўсё прарошчваюць жыта і пшаніцу. Апрача таго, насенне сардэчніку, фасолі, бобу, гароху, гарчыцы, капусты, проса, сланечніку, чачавіцы, грэчкі, ячменю, аўсу, лёну, кукурузы, радыскі, шпінату і інш.

Не прыгоднае для прарошчвання насенне кавуна, дыні, гарбуза, агуркоў, бульбы, памідораў, перцу, баклажанаў, тытуню, а таксама насенне чарнаплоднай рабіны. Яны гаркаватыя на смак а таксама і таксічныя.

**Пажыўная каштоўнасць.** Калі на 70-м годзе жыцця двойчы лаўрэат Нобелеўскай прэміі венгр Сент-Дьердзі пачаў штодзённа есці на снеданне прарошчаныя парасткі раслін, адкрыў, што ніколі яшчэ не адчуваў сябе так добра. Ён заўсёды быў хваравітым, слабым, лёгка захворваў рознымі хваробамі, а пасля ўжывання парасткаў стаў зусім здаровы. Кожную раніцу ён з'ядаў жменю пшанічнага вотруб'я, сталовую лыжку расткоў, некалькі сушаных фруктаў: урук, разынкі і іншыя, заліўшы ўсё гэта шклянкай малака.

Насенне накоплівае ўсё, што расліны лічаць неабходным даць свайму патомству. Калі насенне пачынае прарастаць, то тлушч і вугляводы, што знаходзяцца ў ім, пераўтвараюцца ў вітаміны, цукар і бялок.

**Як прарошчваць насенне?** Усё залежыць ад віду насення. Насенне бабовых трэба пакласці ў шклянку, заліць вадой і, асабліва ў першыя тры дні, некалькі разоў на дзень мяняць ваду.

Насенне пшаніцы прарастае лягчэй за ўсё. Узяць шклянку, пакласці на яе пластмасавае сітца, насыпаць чайную лыжку насення, у шклянку наліць вады так, каб яна толькі падмочвала насенне, яно не павінна ў ёй плаваць. Сітца прыўзняць, змяніць ваду ў шклянцы і... увесь догляд.

Агульны прынцып такі: першыя дні прарошчваць насенне трэба ў цёмным і цёплым месцы, гэта значыць пры пакаёвай тэмпературы. Толькі потым яго можна паставіць на святло і сонца.

# РОЗГАЛАС

## НЯСІЦЕ ВАШЫ ГРОШЫКІ!

**МІНСК. Цяпер утвараецца шмат самых розных камерцыйных арганізацый і прадпрыемстваў, якія найперш думаюць аб сваім прыбытку.**

На гэтым фоне выгадна вылучаецца нядаўна створаная народная карпарацыя «Грамада», адным з гарантаў якой стаў «Белпрамбудбанк». Сама «Грамада» з'яўляецца філіялам амерыканскай арганізацыі «Міжнародная дапамога дзецям». Справа, вядома, не ў назве, а ў канкрэтных лічбах. Дык вось, каля шасцідзесяці працэнтаў свайго прыбытку «Грамада» накіроўвае на канкрэтныя дабрачынныя праграмы. Гэта і будаўніцтва медыцынскіх цэнтраў, і аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей за мяжой, і стварэнне спрыяльных умоў для развіцця прамысловасці, скіраванай на патрэбы дзяцей.

Чым канкрэтна займаецца «Грамада»? Распаўсюджвае аблігацыі сярод насельніцтва. Упершыню «аблігіраванне» вядзецца не дзяржавай, якая часта ў гэтай справе элементарна ашуквала працоўны люд.

Па-першае, «Грамада» дае самы высокі працэнт гадавых — 25. Па-другое, у любы час уладальнік аблігацыі можа забраць свае грошы назад. Ну, і трэцяе, што кошт аблігацый вельмі зручны для большасці людзей — гэта 1, 3, 5 і 10 тысяч рублёў.

Падпіска на акцыі праводзіцца ў Мінскім Палацы спорту.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

## КЛІЧ ПРЭСЫ З-ПАД ПРЭСА

Заклік прыняць тэрміновыя меры, каб засцерагчы прэсу ад самавольства ведамстваў, змяшчаецца ў пісьме, якое кіраўнікі Саюза журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі Беларусі накіравалі Старшыні Савета Міністраў Вячаславу Кебічу. Прычынай для гэтага паслужыла прапанова Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі аб трохразовым павелічэнні тарыфаў на дастаўку, экспедзіраванне і распаўсюджванне перыядычных выданняў. Указваючы на недапушчальнасць і неправамоцнасць аднабаковага змянення заключаных напярэдадні падпісной кампаніі дагавораў, на аснове якіх вызначалася цана выданняў, кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі падкрэсліваюць, што такі крок міністэрства па сутнасці робіць безнадзейным і без таго катастрафічнае фінансавае становішча рэдакцыйных калектываў і ставіць пад пагрозу само існаванне газет і часопісаў.

У пісьме сфармуляваны дзве прапановы ўраду: па-першае, выдзеліць Міністэрству сувязі датацыі, каб яно магло выканаць свае абавязкі перад чытачамі і рэдакцыйнымі калектывамі, як гэта зроблена ў іншых дзяржавах СНД, па-другое, абавязаць Міністэрства сувязі захаваць дзеючыя тарыфы да правядзення новай падпіскі на перыядычныя выданні па рэальна ўзнікшых цэнах. На іншых умовах рэдакцыі газет і часопісаў не могуць прыняць прапанову Міністэрства сувязі і інфарматыкі і пакідаюць за сабой права звярнуцца ў Вышэйшы гаспадарчы суд рэспублікі.

Пісьмо накіравана таксама старшыні Камісіі па галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека Вярхоўнага Савета Беларусі Івану Каратчэні, міністру інфармацыі Анатолю Бутэвічу і міністру сувязі і інфарматыкі Івану Грыцуку. Яно падпісана старшынёй Саюза журналістаў рэспублікі Леанідам Екелем і галоўнымі рэдактарамі больш чым паўтара дзесятка рэспубліканскіх і сталічных выданняў.

(БЕЛТА.

БЕЛАРУШЧЫНА

## Хочаце насіць такі гадзіннік — удзельнічайце ў нашай віктарыне!

**Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі, газета «Звязда» сумесна з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны праводзяць віктарыну «Нашы карані». Умовы яе былі змешчаны ў нумары за 6 сакавіка. Яшчэ не позна прыняць удзел і заваяваць свой прыз! Рэгулярна і ўважліва чытаючы «Звязду», вы можаце знайсці на яе старонках значную долю неабходнай для адказаў інфармацыі.**

**НАГАДВАЕМ ПЫТАННІ 1-га ТУРА:**

1. Якія псеўданімы Кастуся Каліноўскага вы ведаеце? Дзе яны ўжываліся? Назавіце поўнае імя змагара за беларускую незалежнасць.
2. Чым адрозніваецца Сейм ад Сейміка?
3. Назавіце вядомыя вам беларускія этнонімы (назвы плямён, народнасцей, нацыянальных супольнасцей).
4. Колькі Сафійскіх сабораў вы ведаеце? Калі і дзе яны збудаваны?
5. Дзе і калі была заснавана першая друкарня на тэрыторыі Беларусі? Якія кніжкі яна выдавала?
6. Назавіце членаў першага ўрада БНР. Да якіх партый яны належалі?

## ВЫЙДУЦЬ ДА БАЛТЫЙСКАГА МОРА

БРЭСТ. Горад, як вядома, стаіць у міжрэччы Заходняга Буга і Мухаўца. Буг упадае ў Віслу, Вісла — у Балтыйскае мора. Шмат вякоў назад, трэба думаць, гэтая водная артэрыя служыла гандлю. Зусім магчыма, што свабодная эканамічная зона, якая ствараецца ў Брэсце, верне міжнароднай эканоміцы гэты гандлёвы шлях. Цяпер сур'ёзна абмяркоўваецца праект стварэння ў Брэсце грузавога рачнога порта, судны якога будуць ісці да Балтыйскага мора.

## Падатковы прэс, відаць, аслабне. Але толькі крыху

### Нататкі з сесіі Вярхоўнага Савета

Як мы паведамлялі ўжо, работа сесіі пачалася з даклада Старшыні Савета Міністраў В. Кебіча, пры гэтым пытанне было пастаўлена наступным чынам: «Аб выкананні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб падаткаабкладанні».

Напярэдадні сесіі цяперашнюю падатковую сістэму, якая, як вядома, мае істотныя адрозненні ад ранейшай, аналізавалі дзве незалежныя экспертныя групы, якія ўзначальвалі вядомыя ў рэспубліцы эканамісты М. Куняўскі і М. Нікіценка.

М. КУНЯЎСКІ: Мы стаім перад шквальным скідам вытворчасці, і тады праблемы падаткаў увогуле не будзе. У цэлым падатковы прэс значна вышэй таго ўзроўню, які забяспечвае развіццё вытворчасці. У параўнанні з 1991 годам падаткі вышэйшыя на 10 пунктаў. Калі летась з рубля валавога даходу прадпрыемствы плацілі 42 капейкі, то цяпер — 52. У той жа час у самых высокападаткаабкладаемых краінах падаткі бяруцца ў межах 35 працэнтаў.

Камісія М. Куняўскага вынесла таксама адпаведныя прапановы па змякчэнню тых ці іншых падаткаў. Прагучаў і такі вывад: расходы трэба ўвязваць з даходамі. Надзвычай слушна і актуальна!

М. НІКІЦЕНКА: У параўнанні з 1991 годам удзельная вага падаткаў па валавому ўнутранаму прадукту ўзрасла з 41 да 50 працэнтаў (ацэнкі, як бачым, амаль супадаюць). Пры росце цэн павелічэнне падаткаў працуе на раскручванне інфляцыйнай спіралі. Трэба ўхіліць усё тое, што ў найбольшай ступені абцяжарвае развіццё эканамічнай актыўнасці гаспадарчых суб'ектаў, не садзейнічае развіццю рыначных структур. Варта ўстанавіць гранічны ўзровень плацяжоў у бюджэт, прычым безадносна да аб'ёму яго расходаў... Гэта павінна быць прыкладна 25 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту. Трэба ўвогуле адмяніць падатак на сельскагаспадарчую прадукцыю... Зрабіць рэвізію артыкулаў расходаў бюджэту...

Патрабаванні аб змякчэнні падатковай сістэмы прагучалі і ў выступленнях дэпутатаў. Пад канец абмеркавання на трыбуну зноў выйшаў В. Кебіч — для адказаў на пытанні. Ён пачаў з таго, што ў сакавіку мы пачалі ўжо атрымліваць нафту з Расіі па цане 6.000 рублёў за тону — замест некалькіх соцень. І ўжо з-за гэтага прадпрыемствы павінны даплаціць яшчэ 2 мільярды рублёў, адпаведна ўзяць гэтыя грошы на сабекошт і цану сваёй прадукцыі.

Зрэшты, варта падкрэсліць: пэўнае аслабленне падатковага прэса будзе. За гэта ўрад, ад імя якога прэм'ер прапанаваў больш 10 удакладненняў у падатку, за гэта і адпаведная камісія на чале з Р. Унучкам. Пры гэтым паслабленні чакаюцца для сельскай гаспадаркі. Відаць, будуць яны і для малога бізнесу (прапановы па гэтым пытанні яшчэ раз разгледзіць камісія, якая вынесе адпаведны праект на наступным тыдні). Зрэшты, падчас адказаў на пытанні прэм'ер В. Кебіч паабяцаў, што будуць праіндэксаваны зберажэнні.

Так, у першую чаргу неабходна ўласная, выгадная для Беларусі эканамічная палітыка, трэба развіваць выгадныя для нас, канкурэнтназдольныя вытворчасці і г. д. Пра гэта гаварылі дэпутаты. Але больш за ўсё патрэбен прыватнік, якога не трэба было б датаваць, які поўнай мерай адказваў бы за вынікі сваёй дзейнасці. Патрэбен прыватнік, які пераважна і заказваў бы ўсю музыку. Калі мы ўжо рушылі да рынку.

Аднак вось што цікава: на сесіі пры абмеркаванні названага пытання прасіў слова віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі М. Шавельзон, якому, дарэчы, далі пэўныя паўнамоцтвы яго калегі. Але слова ён не атрымаў, дэпутаты прагаласавалі супраць яго выступлення...

І яшчэ адна заўвага. Пры выступленнях дэпутатаў з іх вуснаў нярэдка зрываліся словы пра сяўбу. Вельмі своечасова, хоць, можа, і не зусім стыкуецца з заяўленым у парадку дня пытаннем. Як дарэчы была б і размова аб надзяленні ўсіх жадаючых зямельнымі ўчасткамі, пра што было выдадзена столькі прыгожых пастаноў. Цяперашняя сітуацыя надзвычай сур'ёзная і трывожная. Па сутнасці, любая наша размова датычыць пытання «як выжыць?»

**І. БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

## НЕЮБІЛЕЙНЫЯ НАТАТКІ АБ КПСС І ПАРВАНЫХ ДЖЫНСАХ

Дзень 13 сакавіка не адзначаны ў календары чырвоным колерам. Нават наадварот. Калі б не камуністычныя ісціны, засвоеныя ў школе, і жорсткая ідэалагічная падрыхтоўка на факультэце журналістыкі БДУ, я б і не ўспомніў, што ў гэты дзень у 1898 годзе ў Мінску адбыўся І з'езд РСДРП. Такім чынам, будучай вясной «зацікаўленыя асобы» могуць святкаваць своеасаблівы юбілей — 95 гадоў з дня нараджэння рускага нашчадка Марксавага «прывіду». «Навошта чакаць юбілею, — падумаў я, — можа, да той пары пра камуністаў ужо і памятаць не будуць». І вырашыў адзначыць вышэйпамянёную падзею ў прыватным парадку. Таму напярэдадні 94-й гадавіны «гістарычнага факта» я накіраваўся ў Дом-музей І з'езда РСДРП.

Павольна крочачы па вуліцы Камуністычнай (якая, на дзіва, яшчэ пакуль не стала Капіталістычнай), я выйшаў да легендарнага будынка. Насуперак жартам сяброў, за агароджай не хаваўся Віктар Чыкін з кулямётам, а з даху суседняга дома не цэліўся ў вокны музея са снайперскай вінтоўкі Зянон Пазьняк. Толькі вісела паперка з надпісам «Музей часова не працуе», ды сумны дворнік старанна махаў мятлой тудысюды.

**З аўтабіяграфіі КПСС**
**І з'езд РСДРП адкрыўся 13 сакавіка 1898 года ў 10 гадзін раніцы. Па колькасці прадстаўнікоў гэта быў самы маленькі з'езд партыі. Прысутнічала ўсяго 9 дэлегатаў, — прадстаўнікоў шасці буйных сацыял-дэмакратычных арганізацый Расіі. За тры дні работы было праведзена 6 пасяджэнняў. Пратаколы не вяліся, запісваліся толькі рэзалюцыі. Абмяркоўваліся пытанні аб канстытуіраванні і найменаванні партыі, аб адносінах да нацыянальнага пытання, аб аўтаноміі мясцовых партыйных арганізацый і іншыя. Афіцыяльным органам партыі была прызнана «Рабочая газета».**

Дворнік коратка растлумачыў мне стан, у якім цяпер знаходзіцца мінскі «Смольны». Нядаўна будынак перадалі на баланс Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Таму Дом-музей І з'езда РСДРП у гэтыя дні хуткімі тэмпамі рэканструіруецца і ў рэшце рэшт ад гістарычна-камуністычнай экспазіцыі застанецца толькі невялікая частка былых «рэліквій». Галоўнае месца ў нованароджаным музеі па праву зоймуць экспанаты, звязаныя з гісторыяй і культурай Беларусі без ідэалагічных шораў. Напэўна, ён зменіць і назву. На мае спробы зайсці ў музей, у вокнах якога мільганула жаночая галава (не падобная на нінаандрэеўскую), дворнік адказаў недвухсэнсоўна — рухам у стылі латышскага стралка загарадзіў мятлой шлях на ганак. Пры мне не было журналісцкага пасведчання, таму, не «качаючы праву», я вырашыў зайсці з тылу і зазірнуць у вокны. За будынкам стаяла маленькая будка, у якой, па сцвярджэнню некаторых маскоўскіх вастрасловаў, КПСС схавала свае шматлікія скарбы і грошы. Рыдлёўкі, каб праверыць гэтую цікавую ідэю, не было, таму я збіраўся пералезці праз агароджу і дабрацца да вокнаў. Аднак нечакана зачапіўся нагой за вострьі зубец агароджы, і... мае амаль новыя джынсы разарваліся ад бядра да калена. Так Дом-музей І з'езда РСДРП, як у расказах пра легендарныя егіпецкія піраміды, адпомсціў настырнаму маладому журналісту.

**З аўтабіяграфіі КПСС**
**Праз 25 гадоў пасля І з'езда РСДРП, у 1923 годзе, у доміку, дзе ён праходзіў, адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага музея. У пачатку вайны прамым пападаннем бомбы будынак быў поўнасцю знішчаны. У 1948 годзе, у гонар 50-годдзя І з'езда РСДРП, музей быў адноўлены ў адпаведнасці з макетам, які захаваўся ў Музеі Рэвалюцыі ў Маскве.**

Вось, напэўна, і ўсё. І з'езд РСДРП — таксама наша гісторыя, якую не змогуць выкрасліць ні антыканстытуцыйныя путчы, ні «дэмакратычныя» дыктатуры. І адпаведная экспазіцыя, канешне, мае права не толькі на існаванне, але і на адкрытасць для ўсіх жадаючых. Дарэчы, пасля заканчэння І з'езда яго ўдзельнікі сабраліся на развітальную вечарыну, на якой чыгуначны служачы Пётр Румянцаў (гаспадар дома) сказаў такі тост: «Няхай дзіця, народжанае ў гэтым доме, будзе моцным і дужым, як Геркулес». Што ж, нягледзячы на кесарава сячэнне рэвалюцыяй 1917 года, дзіця ўсё роўна нарадзілася кволым. Але ж неяк працягнула аж да 1991 года і нарэшце памёрла. А можа, гэта проста кома?

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

P. S. Аўтар матэрыялу не мае ніякіх прэтэнзій да РСДРП і КПСС за пашкоджанне амаль новых джынсаў.

## ДАДАТАК ДА ПУНКТА 43

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь» і Закон Рэспублікі Беларусь «Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь».

5. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь».

6. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб часовых мерах па ахове спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь».

7. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь».

8. Аб праектах законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях і Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь.

9. Аб праектах законаў Рэспублікі Беларусь аб прызнанні страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь.

10. Аб парадку вылічэння асобных кампенсацый і спагнанняў.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** Крызісны штаб Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе толькі ў пятніцу пачне абмеркаванне армяна-азербайджанскага канфлікту вакол Нагорнага Карабаха. Паводле паведамлення МЗС Чэха-Славакіі, аб больш раннім тэрміне дамовіцца не ўдалося «з улікам інтарэсаў» прадстаўнікоў Арменіі і Азербайджана.**

* Еўрапейская супольнасць і Расія маюць намер ужо ў гэтым годзе заключыць доўгатэрміновы дагавор аб гандлі і супрацоўніцтве. Пасля сустрэчы ў Бруселі прэзідэнт Камісіі ЕС Жак Дэлор і рускі міністр замежных спраў Андрэй Козыраў паведамілі, што заключаны дагавор будзе выходзіць за межы існаваўшага раней дагавора Еўрапейскай супольнасці з былым Савецкім Саюзам. Намячаецца перш за ўсё расшырэнне сувязей у гандлі, фінансавай палітыцы і эканоміцы.

*** Міністр замежных спраў ФРГ Ганс-Дзітрых Геншэр павіншаваў былога савецкага міністра замежных спраў Эдуарда Шэварднадзе ў сувязі з выбраннем яго на пост старшыні Дзяржаўнага Савета Грузіі. Вялікі аўтарытэт, якім карыстаецца Шэварднадзе ва ўсім свеце, стане для Грузіі важным капіталам, падкрэсліў Геншэр.**

* На былых савецкіх могілках у Гамбургу былы савецкі прэзідэнт Міхаіл Гарбачоў і яго жонка Раіса ўсклалі вянок. Там пахавана каля 400 савецкіх ваеннапалонных, якія загінулі ў другой сусветнай вайне ў раёне Гамбурга. Выступаючы да гэтага ў Гамбургу, Гарбачоў патрабаваў стварэння ўласнага Савета бяспекі для Еўропы. У Гамбургу былы савецкі прэзідэнт закончыў сваю аднатыднёвую паездку ў ФРГ.

### «БІ-БІ-СІ»

* Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мейджар аб'явіў, што 9 красавіка ў краіне адбудуцца ўсеагульныя выбары. У Вялікабрытаніі працягваецца эканамічны спад і таму, як адзначаюць каментатары, напярэдадні выбараў адбудзецца самая вострая палітычная барацьба на працягу жыцця цэлага пакалення. Кансерватары, якія знаходзяцца ва ўладзе 12 гадоў, будуць дабівацца чацвёртага тэрміну, але апазіцыйная партыя лейбарыстаў ужо апярэджвае іх па выніках апытання грамадскай думкі. Чакаецца, што ім могуць скласці канкурэнцыю і ліберальныя дэмакраты.

*** Дзяржаўны сакратар ЗША Бейкер і міністр замежных спраў Расіі Козыраў не змаглі прыйсці да дамоўленасці аб далейшым скарачэнні арсеналаў стратэгічных ядзерных узбраенняў. Пасля заканчэння пяцігадзінных перагавораў Бейкер паведаміў, што рознагалоссі датычацца тэрмінаў і таго, якія катэгорыі зброі павінны быць унесены ў новы дагавор. Расійскі бок дабіваецца, каб амерыканцы зменшылі колькасць ядзерных ракет са шматзараднымі боегалоўкамі, што запускаюцца з падводных лодак, а Вашынгтон настойвае на ліквідацыі ўсіх аналагічных ракет сухапутнага базіравання ў Расіі. Бейкер даў ясна зразумець, што ён яшчэ раз сустрэнецца з Козыравым для перагавораў да таго, як у чэрвені расійскі прэзідэнт Ельцын накіруецца ў Вашынгтон. Прэса адзначае, што бакі працуюць на гэтых перагаворах як саюзнікі і сябры.**

* Еўрапейская супольнасць, Злучаныя Штаты і Японія паведамілі падрабязнасці плана стварэння міжнароднага навукова-тэхнічнага цэнтра, у якім будуць працаваць па найму вучоныя-ядзершчыкі былога Саюза ССР. Цэнтр будзе базіравацца пад Масквой і мець філіялы ў іншых рэспубліках Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Ён зоймецца ў асноўным не ваеннымі даследаваннямі. Уцечку «ядзерных мазгоў», заазначыў у Бруселі Бейкер, трэба ў што б там ні стала папярэдзіць. У часы «халоднай вайны» рускія вучоныя стварылі самыя страшэнныя віды зброі, і задача новага цэнтра зрабіць усё, каб яны не апынуліся ў трэціх краінах. Еўрапейская супольнасць і ЗША ўжо паабяцалі па 60 мільёнаў долараў на стварэнне гэтага цэнтра, Японія таксама выдзеліць значныя сродкі.

*** Галоўная апазіцыйная партыя Малдовы — Народны фронт — сцвярджае, што ў Прыднястроўі сепаратысты тэрарызуюць спрадвечна малдаўскае насельніцтва. Нібыта ў перадачах радыё паведамляюцца прозвішчы і адрасы людзей, якія выказваюцца супраць аддзялення Прыднястроўя. Асобныя жыхары Прыднястроўя папрасілі прэзідэнта Мірчу Снегура перасяліць іх у Кішынёў.**

### РАДЫЁ «ФРАНС ІНТЭРНАСЬЯНАЛЬ (RFI)»

* Паводле паведамлення з Алжыра, ў адным з кварталаў, дзе жывуць дыпламаты, у сераду вечарам забіты два чалавекі. Злачынства здзейснена непадалёку ад пасольства Францыі.

*** У Стамбуле пачаўся судовы працэс над 23 курдамі. Ім прад'яўлена абвінавачванне ў правядзенні тэрарыстычнага акта 25 снежня мінулага года ў адным з буйных магазінаў горада. У выніку падпальвання яго тады загінулі 17 чалавек.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

ПАРАДЫ ГАСПАДЫНІ

## РАМАНТУЕМ АДЗЕННЕ

**ПРАМЫ РАЗРЫЎ** зашываюць так. Рэч кладуць на стол правым бокам, месца разрыву сцягваюць з левага боку і сшываюць тонкай ніткай швом «уперад іголку». Затым усе ніткі падстрыгаюць ножнамі, а месца разрыву прашчыпваюць дробнымі шыўкамі. Шво з левага боку старанна прапрасоўваюць цераз вільготную тканіну.

●

**ПРАМЫ РАЗРЫЎ НА ТОЎСТАЙ ТКАНІНЕ** (драп, тоўстае сукно, бобрык) ліквідуецца некалькі інакш: шыць трэба з левага боку, але так, каб іголка ўваходзіла ў край правага боку разрыву, праколваючы не ўвесь слой матэрыялу. Шыўкі робяцца, як пры штопцы: наперад — назад. Калі месцы разрыву будуць такім чынам сцягнуты, трэба ўсю лінію разрыву прашыць з левага боку швом «цераз край», і прытым так, каб не захопліваць апошняга (правага) боку тканіны. Гэта шво замацоўвае ўсю работу. Затым месцы разрыву трэба прапрасаваць і з правага боку распушыць.

●

**СКЛАДАНЫ РАЗРЫЎ.** Тканіна разарвана ўдоўж і ўпоперак. Як яе зашыць? Трэба раскласці рэч на стале так, каб усе месцы разрыву аказаліся на цвёрдай паверхні. Затым парванае месца распрасоўваюць з левага боку. Асобныя лініі разрыву, папярэдне сцягнутыя па краях тонкай ніткай, пачынаючы з самых кароткіх, сшываюць спачатку швом «за іголку», а потым, падрэзаўшы ўсе ніткі, швом «цераз край».

Затым усе швы прапрасоўваюць цераз вільготную тканіну гарачым прасам.

Латкі пажадана рабіць найменш прыкметнымі. Гэта дасягаецца перш за ўсё падборам для рамонту матэрыялу падыходзячага колеру і выпрацоўкі. Лепш за ўсё, калі захавалася латка матэрыялу, з якой была пашыта рамантуемая рэч.

Перад тым як налажыць латку, трэба акуратна абрэзаць ножнамі краі дзірак і надаць ёй пэўную форму: квадрат, прамавугольнік, круг, трохвугольнік і г. д. Затым з прыгатаванага для латкі матэрыялу выразаюць кавалачак такой жа формы, з прыпускам у 15—20 мм з усіх бакоў на загінанне швоў. Калі латка накладваецца з кавалка новай тканіны, яе трэба папярэдне замачыць і выпрасаваць, каб матэрыял не даў затым усадкі і не зморшчыў латку.

Існуе некалькі відаў латак.



**УСТАЎНАЯ (УТАЧНАЯ) ЛАТКА.** Выразаны кавалачак кладуць на левы бок і прымацоўваюць любым простым швом. Затым падгінаюць краі на правым баку і акуратна падшываюць «патайным» швом самымі дробнымі шыўкамі — ад гэтага залежыць якасць рамонту. Можна прастрачыць і на машынцы, паставіўшы рэгулятар шва на самае дробнае дзяленне. Затым уручную падшываюць кавалачак з левага боку, дастаюць намётку і прапрасоўваюць.

●

**НАКЛАДНАЯ ЛАТКА** прымацоўваецца на левы бок вырабу, прышываецца «патайным швом» ці прастрочваецца на машыне, адступіўшы ад краю латкі 1 мм. Калі ўсё зроблена, адрамантаванае месца прапрасоўваюць цераз вільготную тканіну.

●

**ДВУХБАКОВАЯ ЛАТКА** накладваецца на пашкоджаную частку адзення з правага і з левага боку. Падрыхтоўваюцца дзве латкі — большага і меншага памеру. Прымацоўваюць іх так, каб праношанае месца аказалася паміж імі. Спачатку прышываецца меншая латка (на левым баку), а затым — верхняя (правая), якая павінна пакрываць шво меншай. Двухбаковая латка вельмі трывалая.

●

**«МАСТАЦКАЯ» ЛАТКА** — з аплікацыі ці вышыўкі — можа іншы раз выратаваць сапсаванае адзенне. Напрыклад, уверсе на блузцы з аднаго боку ўтварылася дзірка. Накладзіце на яе, а таксама сіметрычна на другі (не пашкоджаны) бок аплікацыю ці зрабіце нескладаную вышыўку.

Дзірку на спадніцы ў залежнасці ад месца пашкоджання рэчы можна прыкрыць накладной кішэняй, дэкаратыўнай палоскай і да т. п.

●

**МОЖНА ЗНАЧНА АДДАЛІЦЬ ЗНОС** адзення на локцях і каленях. Асабліва гэта датычыцца трыкатажных вырабаў. На рукаве вязанага жакета, світэра і да т. п. прышыйце з левага боку невялікі кавалак лёгкага матэрыялу, пажадана ў тон. Тады будзе праціраццa падкладка, а не трыкатаж.

Латкі можна не толькі прышываць, але і прымацоўваць пры дапамозе клею «БФ-6». Асабліва ён прыдатны для шчыльных шарсцяных тканін. Разрэз ці роўны разрыў можа быць заклеены амаль непрыкметна, асабліва калі ўзяць для латкі той жа матэрыял, з якога пашыта і рамантуемая рэч. Трэба толькі правільна падагнаць малюнак тканіны. Латку лепш выразаць прамавугольную і па прамой нітцы.



АРАНЖАРЭЯ

## РАСЛІНЫ ЛЮБЯЦЬ ЧЫСЦІНЮ

РАСЛІНА — ЖЫВЫ АРГАНІЗМ: калі лісты пакрыюцца пылам, дыхаць ёй будзе цяжка. Таму неабходна расліны і гаршкі круглы год трымаць у чысціні. Для гэтага кветкавыя расліны перыядычна мыюць. Гаршкі таксама мыюць, бо посуд, пакрыты брудам і пылам, не прапускае праз поры паветра да каранёвай сістэмы.

Расліны мыюць мяккай шчоткай альбо губкай, каб не параніць. Пажоўклыя кончыкі раслін (у цыперысаў, пальмаў, драцэн і інш.) абразаюць вострым нажом або нажніцамі.

Пакоі, дзе стаяць кветкі, трэба праветрываць, але не дапускаць скразнякоў і пападання на расліны зімой халоднага струменя паветра, таму што ад гэтага расліны захворваюць.

### ПРА ВАДУ

РОЗНЫЯ ПАКАЁВЫЯ РАСЛІНЫ ставяцца да палівання неаднолькава. Колькасць паліванняў залежыць ад біялагічных асаблівасцей раслін, ад сухасці і тэмпературы паветра, ад ступені сонечнага нагрэву і структуры глебы.

Найбольш засухаўстойлівыя расліны — алоэ, кактусы — патрабуюць менш вады, чым расліны з буйнымі, моцна выпараючымі вільгаць лістамі (абутылен, бягонія). Некаторыя расліны добра растуць нават пры апусканні іх каранёў у ваду (напрыклад, цыперыс).

Звычайна паліванне праводзяць пры значным высыханні глебы. Гэта лёгка вызначыць шляхам пастуквання (пстрычкай) па гаршку. Гаршчок з сухой глебай дае звонкі гук, а з вільготнай — глухі. Размова ідзе, вядома ж, пра керамічныя, гліняныя гаршкі, найбольш прыдатныя для вырошчвання кветак.

Лепш палівацъ расліны мяккай вадой (дажджавой, рачной, з возера) пакаёвай тэмпературы. Пры паліванні халоднай вадой могуць захварэць карані раслін, апасці лісты і бутоны. Пры залішнім паліванні ваду, што выходзіць праз дрэнажныя адтуліны, трэба зліць.

### ПЕРАСАДКА

ВЯСНА — ЧАС ПЕРАСАДКІ многіх пакаёвых раслін. Калі, дастаўшы расліну з гаршка, вы ўбачыце, што карані аплялі ўвесь камяк зямлі, утварыўшы як бы лямец, і нават часткова прабіваюцца праз дрэнажныя адтуліны, то ведайце: настаў час перасадзіць вашу кветку. Трэба памятаць, што расліны, якія цвітуць вясной, перасаджваюць пасля цвіцення. Вечназялёныя



расліны перасаджваюць рана вясной пасля заканчэння зімовага сну.

Пры перасадцы раслін з моцнай каранёвай сістэмай частку каранёў («лямец») абразаюць вострым нажом і частку зямлі выкідваюць. Усе парэзы прысыпаюць парашком з драўніннага вугалю. Затым робяць дрэнаж у гаршку (адтуліну закрываюць чарапком выпукласцю ўверх, накладваюць слой чарапкоў, дробных каменьчыкаў (0,5—3 см), здрабнёны вугаль, буйназярністы пясок). Затым насыпаюць пагорачак зямлі, на якім расправаўляюць карані, дадаюць і ўшчыльняюць сумесь зямлі вакол расліны. Пры гэтым расліну трымаюць левай рукой за каранёвую шыйку, а правай падсыпаюць і ўшчыльняюць зямлю. Пасля перасадкі расліну апырскваюць і паліваюць, засцерагаючы некаторы час ад сонца і скразнякоў. Посуд для перасадкі не павінен быць вельмі прасторным. Бяруць гаршкі з такім разлікам, каб памясціўся стары камяк і вакол яго заставалася прастора ў 1—2 пальцы. Старыя гаршкі мыюць гарачай вадой, абдаюць варам, каб знішчыць цвіль і налёт з водарасцяў. Новыя ёмістасці намочваюць у вадзе для запаўнення пораў у сценках гаршка. Пасадка раслін у незамочаны гаршчок не рэкамендуецца, таму што такі гаршчок усмоктвае шмат вільгаці з зямлі.

Акрамя керамічных гаршкоў, расліны можна саджаць у драўляныя скрынкі (кадкі). Нельга афарбоўваць гаршкі масляной фарбай, аклейваць паперай — такі посуд не прапускае паветра да каранёў раслін, яны дрэнна развіваюцца і ў рэшце рэшт гінуць.

## ПАРАДЫ НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК

● **Плямы са шпалераў можна вывесці,** калі размяшаць у вадзе зубны парашок да гушчыні смятаны і памазаць гэтым растворам забруджанае месца. Раствор пакідаюць на шпалерах на суткі, а затым праціраюць чыстай шчоткай.

● **Лінолеум два разы на год** трэба змазваць льняным алеем. Яго наносяць тонкім слоем шарсцяной анучкай і пакідаюць на суткі (хадзіць па лінолеуму ў гэты час не рэкамендуецца). На наступны дзень яго націраюць да бляску.

● **Можна таксама раз у тры месяцы** нацерці лінолеум натуральнай аліфай і добра выцерці мяккай анучай.

● **Паху маслянай фарбы** можна хутка пазбавіцца, паставіўшы ў пакоях некалькі ёмістасцей з салёнай вадой.

